Год II. Люты 1933 г. № 2 (14).




# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!

БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Люты 1933 г. № 2 (14)

## 21. Грамніцы — Стрэценьне Госпада Нашага Ісуса Хрыста.

### ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВ. СЬВ. ЛУКІ. РАЗЬДЗЕЛ 2, 22-40. ЗАЧАЛА 3.

22. Таго часу, калі споўніліся дні ачышчэньня Марыі, па закону Майсея, прынясьлі бацькі дзіця — Ісуса ў Ерусалім, каб паставіць Яго перад Госпадам.

23. Як напісана ёсьць у законе Госпадавым: «Каб усякае дзіця, мужчынскага роду, што адчыняе лона, было ахвярована Госпаду.

24. І каб далі ахвяру, як сказана ў Госпадавым законе: дзьве сінагорліцы, ці двое галубят."

25. І вось быў у Ерусаліме чалавек, на імя Сымон. А быў ён чалавек, справядлівы і богабойны, чакаючы пацехі для Ізраіля; а Дух Сьвяты быў з ім.

26. А было яму аб'яўлена Духам Сьвятым, што ня ўбачыць сьмерці, дакуль ня ўвідзіць Хрыста Госпадава.

27. І прыйшоў ён, натхнёны Духам, у храм. І калі бацькі ўвялі Дзіцятка-Ісуса, каб даканаць над Ім законны абрад,

28. Узяў ён Яго на рукі свае, і багаславіў Бога і сказаў:

29. Цяпер адпускаеш у супакоі слугу свайго, о Госпадзе, паводле слова Твайго.

30. Бо вочы мае аглядалі тваё спасеньне,

31. Каторае Ты прыгатаваў перад воблікам усіх народаў.

*32. Сьвятло на асьвету паганцам, і на славу народу твайго Ізраіля.*

*33. А Язэп і Матка Ягоная дзіваваліся з таю, што аб Ім гаварылася.*

*34. І багаславіў іх Сымон і сказаў Марыі Матцы Яго: Вось Гэты ёсьць палажан на ўпадак і на паўстаньне многіх у Ізраілі і на знак, катораму будуць працівіцца.*

*35. І Табе самой меч пранікне ў душу, каб адкрыліся мысьлі многіх сэрцаў.*

*36. І была тут прарочыца Анна, дачка Фануіла, з пакаленьня Асыр; была-ж яна ў вельмі глыбокай старасьці, пражыўшы з мужам сем гадоў ад свайго дзявоцтва.*

*37. А была яна ўдавой да восемдзесят чатырох гадоў, не адыходзячы ад храму, постам і малітвай служачы Богу днём і ночай.*

*38. І яна, надыйшоўшы на той час, славіла Госпада і гаварыла аб Ім усім, чакаўшым выбаўленьня ў Ерусаліме.*

*39. А як выканалі ўсё паводле Госпадавага закону, вярнуліся ў Галілею, у горад свой Назарэт.*

*50. А Дзіця ўзрастала і ўзмацнялася Духам, поўнае мудрасьці; а ласка Божая была з Ім.*

---

*«Свѣтъ во откровеніе языковъ».*
(*в гимну „Нынѣ отпущаеши..."*)

Сёньняшняя ўрачыстасьць установлена Сьвятою Царквою ня толькі ў чэсьць Ісуса Хрыста, але і Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. У саракавы дзень радоў, паводле Майсеевага закону, кожная жанчына павінна была прыйсьці да сьвятыні, сьвяшчэньнік чытаў над ёю ачышчальную малітву. Жанчына таксама са сваім мужам прыносіла дзіця першароджанае мужчынскага полу на ахвяру Богу. З пачатку першы сын заставаўся пры сьвятыні служыць Богу, а калі на Божую службу было празначана пакаленьне Леві, бацькі складалі за дзіця ахвяру, як-бы выкуп, троха грошай (5 сыкляў) і 2 галубоў.

Найсьвяцейшая Дзева, разам са Сьвятым Язэпам, таксама пайшла на саракавы дзень да Ерусалімскае сьвятыні,

каб выпаўніць закон ачышчэньня, ахвяраваць свайго сына Богу. Пэўне, што не патрабавала ачышчацца Начысьцейшая і Найсьвяцейшая, аднак зрабіла гэта з вялікай пакоры і дзеля прыкладу, як мы павінны акуратна выпаўняць усе пастановы Божыя.

Сустрэў сьвятую сям'ю сьвяты старац Сымон. Быў гэта вельмі справядлівы, багабойлівы і набожны старац. Ведаў ён, што ўжо хутка мае прыйсьці абяцаны Мэсыя. Вельмі часта і горача маліўся, каб мог убачыць яшчэ перад сьмерцю Збаўцу сьвету. Госпад Бог выслухаў ягоную малітву і абяцаў яму, што ён не памрэ, пакуль ня ўбачыць сваімі вачыма даўно чаканага Мэсыі. Ужо падыйшла і глыбокая старасьць, ледзь мог ногі валачыць, аднак сьвяты старац Сымон заўсёды спадзяваўся, што яшчэ ўбачыць Славу Ізраіля.

Аднаго разу ўгледзіў падыходзячую пару людзей з дзіцяткам. Штосьці яму казала, каб зьвярнуў сваю ўвагу на гэтае дзіця. Калі-ж глянуў у вочы дзіцяці, асьвечаны сьветам ласкі Сьвятога Духа, пазнаў у гэтым дзіцятку чаканага Мэсыю. З вялікай пашанай і радасьцю ўзяў Дзіця-Ісуса на свае рукі і з вуснаў яго вырваўся радасны гымн падзякі і праслаўленьня Госпада: „Нынѣ отпущаеши раба Твоего, Владыко..." Дачакаўся Таго, Каго чакаю праз усё жыцьцё, убачыў Збаўцу, якога жадаў убачыць усёю душою.

Сьвяты старац Сымон у гэтай над'звычайнай радасьці называе Ісуса Хрыста сьвятлом: „Свѣтъ во откровеніе языковъ .."

Запраўды Ісус Хрыстос ёсьць сьвятлом. Для выяўленьня гэтай веры на сяньняшняе сьвята ў каталікоў лацінскага абраду пасьвячаюцца сьвечкі. Сьвечка прыпамінае Ісуса Хрыста, Каторага таксама Сьвятое Пісаньне называе сьвятлом.

Гэты звычай пераняли і уніяты на нашых землях. Гэты звычай так укараніўся ў нашым народзе, што і тады нават захаваўся (не маглі а мо' нават не пасьмелі яго выкараняць), калі народ сілком быў адцягнуты ад сьвятой лучнасьці хрысьціян і апынуўся ў нязлучаным праваслаўі.

Нават цяпер, калі ўжо прайшла амаль сотня гадоў ад скасаваньня уніі на беларускіх землях, гэты звычай пасьвячаньня сьвечак на Грамніцы захаваўся. Пайдзеце да царквы нязлучаных праваслаўных і пераканаецеся, што я кажу праўду.

Мо' скажаце, што гэта праўдзіва праваслаўны звычай, ува ўсёй царкве практыкуецца. Гэтаму запярэчыць кожны эмігрант з Расеі. У Расеі няма гэтага звычаю, нават і ў трэбніках, выданых у Расеі, няма малітвы пасьвячэньня сьвечак на Грамніцы.

Вось, мой дарагі нязлучаны праваслаўны, тая сьвяча, каторую ты трымаеш у руцэ на Грамніцы ёсьць доказам,

што твае дзяды і прадзеды былі уніятамі. Як сьвятло сьвячы разганяе начную цемру, так і гэта грамнічная сьвяча хай табе, дарагі патомак слаўных продкаў, мучанікаў за сьвятую унію, за сьвятое злучэньне, прасьвеціць дарогу да аб'яднаньня, да веры нашых дзядоў і прадзедаў.

Ісус Хрыстос ёсьць сьвятлом Сам аб сабе кажа: „Азъ есмъ свѣтъ міру"... (Іо. 8,12). Сьвятая царква на Утрані ў кожную суботу прадпісвае сьвяшчэньніку, каб, стоячы з кадзільніцаю перад абразом Найсьвяцейшай Багародзіцы, пасьля 8 песьні канону, ўрачыста праслаўяў Ее словамі: „Богородицу: Матерь свѣта въ пѣсняхъ возвеличимъ." Запраўды, Найсьвяцейшая Дзева ёсьць Мацераю Ісуса Хрыста, Мацераю сьвятла.

Ісус Хрыстос ёсьць сьвятлом дзеля навукі, якую нам пакінуў і дзеля прыкладу, які нам даў.

Ісус Хрыстос ёсьць святлом для чалавецтва. Ня толькі сьвятлом, але і жаралом усякага сьвятла, Ісус Хрыстос ёсьць сонцам, бо як сонейка яснае асьвятляе, грэе і дае жыцьцё, так сама і ад Збаўцы нашага маем тое-ж самае.

Асьвячае Хрыстос нас праз сваю боскую навуку, праз свае эвангельле. Чалавецтва, пакіненае само сабе, кіраўніцтву вельмі агранічанага чалавечага розуму, лёгка можа памыліцца, і як гісторыя нам сьведчыць, часта вельмі мылілася і мыліцца. Госпад Бог стварыў чалавека і чалавек праз усё сваё жыцьцё мусіць да Бога ісьці, бо ў ім толькі можа знайсьці шчасьце. Як-жа часта чалавек, кіруючыся сваім розумам, а яшчэ часьцей пажаданьнем свайго цела, ня імкнецца да Бога, а адыходзіць ад Яго.

Ісус Хрыстос, праўдзівае сьвятло нашых душ, выразна паказвае чалавеку мэту, да якой мае ісьці, і таксама паказвае дарогу, якая толькі можа давясьці да аканчальнае мэты чалавека, да Бога.

Сонца грэе. Таксама і Хрыстос Збаўца наш ня толькі паказвае нам простую дарогу да шчасьця, да Бога, але памагае нам ісьці гэтай дарогай. Заснаваў дзеля нашага збаўленьня сьвятую царкву, таінствы, а асабліва дае помач людзям, даючы ім самога сябе ў таінстве Найсьвяцейшага Цела і Крыві сваей.

Як сонца ня толькі грэе, але і дае жыцьцё кожнай жывёліне, кожнай расьлінцы, таксама і Ісус Хрыстос, праз сваю ласку, дае нам, людзям, жыцьцё надпрыроднае, Божае. Праз ласку, якую нам выслужыў Ісус Хрыстос сваёй мукаю і сьмерцяю на крыжы, мы маем шчасьце быць сынамі Божымі і насьледнікамі Божага Царства.

Ісус Хрыстос ня толькі навукай сваёй, але яшчэ больш прыкладам сваім, прасьвечвае нам дарогу да Бога. Вось чаму абавязкам кожнага хрысьціяніна ёсьць пазнаць жыцьцё Ісуса Хрыста, бо ў жыцьці Хрыстовым маем найлепшы

прыклад да насьледаваньня. Сам Збаўца заахвочвае сваіх вучняў да перайманьня. „Даў Я вам прыклад, каб і вы так рабілі, як і Я вам зрабіў.“ (Іоан XIII 15 г.)

За прыкладам Ісуса Хрыста пайшло вялікае мноства людзей, што цяпер цешацца поўным і вечным шчасьцем у небе. Жыцьцё іх было, як тая сьвечка, што гарыць на аўтары або перад абразом на Божую славу.

Шмат і ў нашых часох ёсьць людзей, што жывуць паводле навукі Хрыста, жыцьцё іх, як сьвяча ў часе Сьвятой Літургіі. Возьмем для прыкладу манашку, якіх многа па нашых манастырох. Пераступае манастырскі парог яшчэ зусім маладой нявіннай, як ангел, дзяўчынкай. Служыць у манастыры, зусім ня выходзячы з яго праз усё жыцьцё і ня бачачы нікога, апрача сваіх такіх-жа самых манашак. Служыць Богу і праслаўляе Яго ў сваіх малітвах і песьнях, і так праз усё жыцьцё, бывае што больш як паўсотні лет. Ці-ж не падобна яе жыцьцё да сьвечкі на аўтары Божым? Як сьвечка гарыць, так і яна жыве для Бога, і як сьвяча, калі выпаліцца, гасьне, так і жыцьцё манашкі гасьне. Гасьне, праўда, але толькі для жыцьця зямнога, каб зараз-жа распачаць новае жыцьцё, — жыцьцё шчасьлівае, жыцьцё вечнае, якое ніколі ня згасьне.

Так, мае дарагія браты і сёстры, Ісус Хрыстос ёсьць праўдзівым *сьвятлом, што асьвячае кожнага чалавека прыходзячага на гэты сьвет* (Іоан. I, 9). Кожны хрысьціянін павінен старацца, каб жыць паводле навукі Ісуса Хрыста і яго прыкладу, які нам пакінуў. Кожны хрысьціянін—гэта сьвяча, што мае гарэць на славу Божую.

Дай Божа, каб нашае жыцьцё было запраўды Божаю сьвечкаю. Калі будзе гарэць на славу Божую, ня страшна будзе і калі скончыцца наша жыцьцё, калі сьвечка нашага жыцьця пагасьне. Як толькі пачне гаснуць нашае жыцьцё, дадуць нам у рукі сьвечку, што называецца грамніцай. Пры сьвятле грамніцы перайдзем там, дзе ўбачым сьвятло вечнае Ісуса Хрыста, і сьвятое нашае жыцьцё загарыць іншым сьвятлом, што ня згасьне на векі вечныя. Амін.

*а. Антоні.*



Г. Кастэльнык.

# Вялікія людзі.

## Княгіня Сьмерць.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

(Далейшы працяг).

— Дружкі мае, дружкі! Скажэце мне праўду: хто мяне выбраў — ці сьмерць, ці Ягвэ?

— Ягвэ цябе выбраў, Ягвэ! На цябе свае цянёты Ён паставіў, прышле па цябе Ён сваю калясьніцу.

— А калі-ж прышле ён, мае дружанькі? Скажэце мне праўду: сколькі дзён яшчэ гуляціму з вамі?

— Ня лічы ты дзён, княгіня наша! Ня дні, а сталецьці, моў кроплі дажджу, прамінаюць: былі—дый няма. Толькі вялікае дзела сьлед за сабой пакідае!

— Дружкі мае любыя, пойдзем мы між красак. Сядзьма на квяцістым месцы, хай зраблюся я краскаю, калі Ягвэ мяне схацеў сарваць для Сябе. Краскі мае мілыя! Я такая, як вы. Мая і доля такая: калі вы найхарашэйшыя, тады вас зрываюць!

—o—

Дружкі мае, дружкі! Раса ёсьць на красках — чаму-ж краскі плачуць?

— Плачуць краскі, плачуць, бо ў тузе ёсьць сьлёзы і ў радасьці сьлёзы.

— А маеце вы слова, дружанькі, процiў маіх сьлёз?

Ось глядзеце: там Масфа!... Дарагую Масфу я сабе прыгадвала! Як я тужыла па бацьку, калі ён па горах туляўся і ня сьмеў паказацца ў Масфе. А цяпер мой татанька князем у Масфе, а я ня сьмею паказацца ў ёй! — Ягвэ хоча ахвяры! Ягвэ хоча ахвяры! Ці сяк, ці так. Масфа мая дарагая! Яшчэ толькі раз цябе пабачу!

Ох, як мне сьлёзы льюцца!

— Ня плач, ня плач, князёўна! Масфа меціме цябе на векі ў душах дачок сваіх і сыноў.

— Ой, мае вы дружанькі! Зямля мае дзьве душы: дзень і ноч. І я маю дзьве душы: ясную, як дзень, і цёмную, як ноч.

Дружанькі мае, цяжка ўміраць маладому—гэта мая ноч! Я мужа не зазнаю, ў агні згарэць маю — гэта мая цёмная ноч!... Але я адкупляю Ізраіля, бацьку свайго адкупляю — гэта мой белы дзень! Хоць цяжанька паміраці, я рада паміраць.

Паміраю — а яшчэ жыву. І змагаюцца ўва мне, ах змагаюцца люта дзень і ноч. Дзень перамагае, то ноч перамагае. Што пераможа? — Дзень пераможа, — бо я адкупляю Ізраіля і айца свайго роднага! Дзень сьвяты і жыцьцяносны!

Ах, але цяпер пераважвае ноч, бо яе пара! Б'юць каламутныя жаролы недзе з дна сэрца і выносяць на соўнечнае сьвятло смутак і трывогу мае душы... ды закрываюць сонца...

Не глядзеце на мяне, таварышкі мае, бо мая ноч надходзіць! Пакладзецеся спаць, заплюшчце вочы, бо я разьвярну сваю душу і сорамна мне перад вамі!

Не глядзеце на мяне, бо сорамна мне, што я з трывогі плачу...

* * *

Дачка Князя Ефтэя ходзіць па горах сама ды тужыць і плача.

— Горы Галяадзкія, зялёныя горы? скалістыя горы! Ужо я вас ня ўбачу ніколі!

А нямыя горы адазваліся: «Ніколі!»

— Ні з Масфы: здалёку... Ні зблізка! Па ягады да вас я хадзіла, і ўвечары дамоў вярталася—з надзеяй, што й на другі дзень, і за год прыйду да вас. А цяпер я ўжо больш ня прыйду да вас ніколі!

А нямыя горы адазваліся: „Ніколі!“

—Я вас палюбіла! Да вас я выпрасілася на вясельны мой час: як мой бацька заручыў мяне, што і сам ня ведаў пра тое і я пра тое ня ведала!

Ах!...

А нямыя горы ўздыхалі: «Ах! Ах!» — Горы Галяадзкія! Зялёныя горы! Я вас адратавала для Ізраіля! За вас паміраю! Каб ізраільскія дзеці маглі глядзець на вас і называць сваімі... Каб вы маглі да ізраільскіх песьняў прыслухвацца...

Я, што падчас крывавае расправы сядзела ў хаце, я вас уратавала! Я дзяўчына з-пад вясельнага вянка, ахвяравала сваю кроў за вас! І прышла я да вас, каб вашу пячаць панясьці ў вечнасьць — ад Бога.

Узамен за вас, ўзамен за сто тысяч ізраільскіх душ, узамен за долю Ізраіля мяне Ягвэ бярэ...

—Горы, гораньні, мая кроў дарагая! А нямыя горы адгукнулі: «кроў дарагая!»

—Зжахнуўся мой бацька, адважны князь Ефтэй, разьдзёр маю адзежу: „Дочачка мая, што ты мне зрабіла?

— Ды я ня спуджалася!

Мой татачка-княжа! — я так яму сказала, — хай будзе так, як ты прысягнуў. Ты пра тое ня думаў і я пра тое ня думала, але Ягвэ думаў!

Мой татанька-княжа! — я так яму сказала — гэта ня я зрабіла, гэта Ягвэ зрабіў,—бо Ягвэ не жартуе. Ягвэ хоча ахвяры. Ён любіць адважных і слаўных —тых, што не ўцякаюць... А ці зашмат Ён хоча? — Адну аднюсеньку душу! Сяньня адну; як не, то заўтра дзесяць;за месяц—сто тысяч; за год — увесь народ! Мой татачка-княжа! Ты аб тым ня думаў, — але Ягвэ думаў!

Скажэце, зялёныя горы Галяадзкія, ці пра тое Ягвэ думаў?

А нямыя горы адказалі: „Ягвэ думаў!»

— Горы Галяадзкія! Мой бацька так зрабіў, як Богу прысягнуў. Мой бацька не эгіпэцкі купец, не бабілёнскі адвакат і ня ключ выцерты, што круціцца сюды й туды, а не адчыняе і не замыкае.

Ці-ж меў казаць: «Пра ўсё я думаў, як прысягаў, ды пра сваю дочаньку ня думаў. А пра што ня думаў, на тое і не прысягаў"... Ня думаў мой бацька, але Ягвэ думаў, а бацька — сказаў. Ці-ж меў ён дурыць Бога, каб здурыць і сябе? Мой бацька не эгіпэцкі купец ды не бабілёнскі адвакат.

Горы галяадзкія! Ня было мяне на сьвеце і зноў ня будзе. Але Ягвэ вечны і Яго волю трэба спаўняці. А Ягвэ мяне зажадаў узамен за вас, замест сту тысяч ізраільскіх душ, узамен за волю Ізраіля...

І вось прыйшла я разьвітацца з вамі. Дзявоцтва сваё пакідаю вам — хай будзе вечнае як і вы, лясістыя горы галяадзкія. Лясістыя і камяністыя... бывайце здаровы, мае родныя гораньκі! Маладому сэрцу жаль вас пакідаці навекі! А горы нямыя ўздыхнулі: „Навекі!"

* * *

У галяадзкіх горах пані - маладая з таварышкамі. дружкамі.

— Дружачкі мае, сястрычкі, ўставайце! Скажэце мне ці добра зрабіў Ягвэ, калі выбраў сабе дачку-адзіначку Ефтэя - князя ўзамен за галяадзкія горы, за сто тысяч, ізраільскіх душ, за волю цэлага Ізраіля?

— Добра зрабіў, добра! Слаўная князёўна наша!

А каторы ўжо сяньня дзень майго вясельля, якое мне: Ягвэ спраўляе?

— Ня пытай ты пра дзень, бо ўсе дні мінаюць! Няма такога, каб прыстаў ды сказаў: далей годзі. —Пайдзеш ты першая, а мы за табою! А тыя, што прыдуць пасьля нас, казацімуць пра нас:

„Ужо адыйшлі даўно! Якая розьніца: ці жылі сто гадоў, ці семнаццаць?" — Але дачка Ефтэя пакіне сваё імя — навекі!

—Дружкі мае, сястрычкі мае!Няслава ў Ізраілі дзівавацца на векі. Вас вазьмуць пад вянок не такі, як мой. Мецімеце мужоў, сыноў радзіцімеце — славу Ізраіля. А што вы казацімеце пра мяне?

— Казацімем: што дачка Ефтэя — вясельны вянок на нашай галаве, што без яе і мы-б не вянчаліся, бо Ізраіль быў-бы, моў сталочаны кветнік...

— Сястрычкі мае любыя! Абцалуйце мяне, расцалуйцеся са мною! Перадаю я вам дзявоцтва сваё; хай у вас цьвіце, хай і плод прыносіць!

— Сястрычка наша любая! Цалуй ты нас, расцалуйся ты з намі, бо час адходзіць, а ты выбрана між намі, Ты прыносіш долю!

Ужо заўтра будзе той дзень, калі вяртацца трэба нам у Масфу.

—Ах, сястрычкі мае! Зьбірайце мае сьлёзы, бо гэта краскі,каторыя заўтра сабе Ягвэ сарве!

*
* *

Так аплаквала сваё дзявоцтва дачка Ефтэя ў Галяадзкіх горах, дзень і ноч праз два месяцы, з сваімі таварышкамі. А па двух месяцах вярнулася ў Масфу, каб бацька выканаў на ёй свой зарок. І калі ўжо ляжала на аўтары, дык яе таварышкі з галяадзкіх гор пяялі вясельныя песьні і пераплятали іх воклікамі:

„Добра зрабіў Ягвэ, добра!"
„Добра ты зрабіла, князёўна, добранька!"
„Ты была гатова ўмярці за народ!"

—о—

Але,— як пераказваюць Сьв. Кнігі,—дачка Ефтэя яшчэ і па сьмерці не разлучылася з дочкамі Ізраіля. Цераз доўгія гады-рады прыходзіла яна ў галяадзкія горы аплакваць сваё дзявоцтва.

І завёўся такі звычай у Ізраільцян, што дочкі праз чатыры дні ў годзе выходзілі ў галяадзкія горы размаўляці з дачкою Ефтэя.

— Дочанька Ефтэя! Дочанька Ефтэя! Ці добра зрабіў Ягвэ, Бог Ізраіляў, калі выбраў сабе цябе адну, узамен за галяадзкія горы і за волю цэлага народу?

— Добра, добра! — адказвала дачка Ефтэя то з прорваў-далін, то з скалаў,—за сто тысяч душ узяў сабе Ягвэ толькі адну душу!

— Дачка Ефтэя! Ці добра зрабіў Ефтэй, слаўны князь Ізраільскі?

—Добра, добра!—адказвала яна, —бо ён тое даканаў, што Ягвэ думаў, ня хітрыў душою!

А дзяўчаты сьпявалі:

Добра зрабіла дачка Ефтэя,
Бо за волю Ізраіля.

Ахвотна аддала сваё жыцьцейка! Голас дачкі Ефтэя дочкі ізраільскія чулі, але вобліку яе ня бачылі.

Пераклаў **Надбужны.**

---

# Каб усе былі адно!

*(Іоан. 17, 21).*

Кожны, хто хоча дайсьці да неба, павінен дзяржацца аднэй, праўдзівай Хрыстовай веры. Праўдзівая вера ёсьць толькі адна. „Адзін Госпад, адна вера, адзін хрост" **(Эфэс. 4, 5).** Закладаючы Сваю Царкву і веру, Хрыстос сказаў да сьвятога апостала Пётры: „Я кажу табе: ты — скала, і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю і брамы пякельныя не перамогуць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага; і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на небе; і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана на небе". **(Мат. 16, 18 і 19).**

З гэтых Хрыстовых слоў відаць, што Хрыстос збудаваў Царкву Сваю на асобе Пётры, ды яму і ягоным наступнікам даў нязвычайна вялікую ўладу ў Сваёй Царкве. Хто гэтага не прызнае, той не знаходзіцца ў лоне праўдзівай Хрыстовай Царквы, ня мае праўдзівай веры.

Другім разам сказаў Хрыстос таму-ж сьв. Пётры: „Я маліўся за цябе, каб не загасла вера твая, і ты некалі, навярнуўшыся, ўмацоўваў братоў тваіх" **(Лук. 22, 32).**

Хрыстос ведаў і прадказаў, што Пётра, збаяўшыся жыдоў, адрачэцца перад імі ад Хрыста, дзеля гэтага загадзя прыказвае яму, каб апомніўшыся ўмацаваў братоў сваіх, гэта знача іншых апосталаў і вучняў Хрыстовых, у веры Хрыстовай.

Гэтак паручыў Хрыстос ня толькі самому Пётры, але і ягоным наступнікам, рымскім патрыярхам (папам) умацоўваць у праўдзівай веры Хрыстовай усіх іншых патрыярхаў, япіскапаў і сьвяшчэньнікаў усяго сьвету. Іхняя-ж вера не загасьне, бо ласка Бога ўдзержыць іх у праўдзе.

Сягоньня, хто хоча быць у праўдзівай веры, павінен верыць так, як вуча наступнік сьв. Пётры —

Папа Рымскі і паслушныя яму духоўнікі, а хто паступае інакш, той блудзіць у справах веры.

Ужо пасьля ўстаньня з гробу Ісус Хрыстос аж тры разы спытаў сьв. Пётры **„Ці любіш ты Мяне"?**, а на адказ таго, што любіць, прыказаў яму; **„Пасі баранчыкі Мае, пасі авечкі Мае"**, (Іоан 21, 15 — 17). Пасі баранчыкі Мае, пасі авечкі Мае, азначае — вучы верыць і жыць усіх людзей, веручых у Хрыста і кіруй імі; кіруй цэлаю аўчарняй: і авечкамі і іх пастырамі.

Вось тут Хрыстос і даў сьв. Пётры і ягоным наступнікам тыя ключы Царства Нябеснага, якія даўней абяцаў. Гэтым актам паставіў яго найвышэйшым пастырам, вучыцелем і кіраўнікам Сваей Царквы. Сам Хрыстос астаўся і надалей Галавой і Валадаром Царквы, але Ён за колькі дзён меў адыйсьці ў неба, для відочнай Царквы стацца нявідочным, вось пакідае для Яе відочнага Свайго заступніка — кіраўніка ў асобе сьв. Пётры, а па ягонай сьмерці тая ўлада, тыя ключы маюць пераходзіць на ягоных наступнікаў на яго апостальскім (рымскім) пасадзе, пакуль будзе трываць Царква — гэта знача да канца сьвету.

Вось і сягоньняшні наступнік сьв. Пётры на рымскім пасадзе, (бо сьв. Пётра перад сьмерцяй быў у Рыме і там памёр) **Папа Рымскі** мае тыя-ж ключы, тую-ж усю ўладу і тую-ж павіннасьць умацоўваць у веры братоў сваіх і пасьвіць баранчыкі і авечкі Божыя. Дзеля гэтага, хто не прызнае Папы Рымскага найвышэйшым на зямлі пастырам і кіраўнікам Царквы Хрыстовай, той да праўдзівай Ягонай Царквы і не належыць.

Пасылаючы вучняў сваіх на навучаньне, сказаў Хрыстос: „Хто вас слухае, той Мяне слухае, а хто вас пагарджае, той Мяне пагарджае"... **(Лук. 10, 16)**. Вось калі хто кажа, што ён верыць у Бога і ў Хрыста, але не прызнае Папы, або мо' адкідае і ўсякае духавенства, як робяць розныя пратэстанты і сэктанты (баптысты, мэтодысты, штундысты і іншыя), той гэтым самым пагарджае і Хрыста, бо ягонай волі не спаўняе. Хто адкідае устаноўлены Хрыстом парадак у Царкве, адкідае пастыраў, той яўна бунтуецца проці Самога закладчыка Царквы —Хрыста і проці Сьвятой Тройцы, хоць-бы ён на словах цьвярдзіў, што верыць у Эвангельле, ў Хрыста, ў Бога. Аб гэтакіх „веруючых" сказаў Хрыстос, што многія скажуць Яму некалі: „Госпадзе, Госпадзе, або-ж мы ў Тваё Імя не праракавалі і ў Тваё Імя чарцей не выганялі і у Тваё-ж Імя шмат цудаў не рабілі?" А тады скажу ім: што Я вас ніколі і ня знаў: адступецеся ад Мяне, каторыя робіце няправасьць **(Мат. 7, 22-23)**. Разважма гэта добра! Хрыстос кажа, што не даволі прызнаваць Яго на словах і казаць Яму: Пане, пане... Госпадзе, Госпадзе... але трэба спаўняць Яго Божую волю, то гэтак

збавіш душу сваю. І дабаўляе, што на апошнім судзе станnуць перад Ім такія, што самі праракавалі ў Імя Хрыста, ў Яго Імя выганялі злых духоў і рабілі цуды, а каторым Ён скажа, што іх ніколі і ня знаў, і прагоніць іх ... Аб кім гэта Хрыстос кажа? А гэта аб усіх фальшывых прароках, што маюць Імя Хрыстовае на вуснах, але ня маюць Яго ў сваіх сэрцах, у якіх пануе дух гордасьці, каторыя ходзяць па сьвеце, адводзячы людзей ад праўдзівай Хрыстовай Царквы, ад яе духоўнай улады, ды ўводзяць у блуд, кажучы, што ня трэба, або нават і грэшна маліцца да Маці Божай Марыі і да сьвятых, дзяржаць крыжы, абразы, хадзіць у сьвятыні, паліць сьвечкі, рабіць знак крыжа і г. д. Усе гэтакія вельмі часта маюць на вуснах Хрыста, але Ягонай волі не спаўняюць, бо пастаўленых Хрыстом пастыраў Царквы не прызнаюць і ня слухаюць, а і другіх ад гэтага адводзяць. Усе яны фальшывыя прарокі і не знаходзяцца яны ў праўдзівай Хрыстовай Царкве, ды заслужваюць на тое, каб іх Хрыстос прагнаў ад сабе, кажучы, што іх ніколі і ня знаў. Тая-ж доля спаткае і ўсіх, хто ім паверыць ды за імі пайдзе.

Каб належаць да праўдзівай Хрыстовай Царквы, трэба прызнаваць і спаўняць усю волю Хрыста, а ня толькі тое з яе, што каму лепш падабаецца. Вось калі хтось, напрыклад, прызнае Хрыста і Яго Царкву, і япіскапаў, і сьвяшчэньнікаў, але не прызнае Папы Рымскага за найвышэйшага на зямлі пастыра, той таксама-ж не знаходзіцца ў лоне праўдзівай Царквы Хрыстовай, і яму трэба дапоўніць сваю веру прызнаньнем наступніка сьв. Пётры ў Рыме.

Вось-жа праўдзівай Хрыстовай Царквой ёсьць толькі адна Царква Каталіцкая, і хто да яе не належыць, або яе пакідае, той блудзіць. Аднак ня знача, што каб належаць да праўдзівай Хрыстовай Царквы, то трэба канечна прыняць і лацінскі абрад, ці, як у нас кажуць, зрабіцца палякоm. Не! ня ў тым справа. Ідзе аб тое, каб была адна праўдзівая вера, можа быць і не адзін абрад. Трэба ўсім прызнаваць усе праўды веры, якія Царква Хрыстова падае, а абрады могудь быць і ёсьць розныя. Гэтак у нас на Беларусі здаўна было каталіцтва і лацінскага абраду і славянскага. Руская царская праваслаўная ўлада сілай прылучыла каталіцтва славянскага абраду да свае „казённай веры“, але цяпер ізноў тое-ж каталіцтва свавянскага абраду ўваскросла і разьвіваецца, і ёсьць надзея ў Бога, что яно будзе разьвівацца што раз больш, аж пакуль ня станецца адно стада і адзін пастыр. Адлучаныя сілай ды абманам нашы браты, праваслаўныя беларусы, па сягоняшні дзень яшчэ шмат чаго трымаюцца з даўнейшага сваіх прадзедаў каталіцтва: так, яны сьвяткуюць каталіцкія сьвяты: Дзевятніка, Дзесятуху, сьвецяць сьвечкі (грамніцы) на Стрэценьне,

а зельле на Ўспленьне і г. д. Шмат дзе яшчэ і па сягоньня стаяць даўнейшыя славянска - каталіцкія (уніяцкія) цэрквы, толькі ў іх правяць службу нязлучаныя з праўдзівай Царквой духоўнікі, якія таксама ўжо сям - там прылучаюцца такі да гэнай Царквы, і дасьць Бог будзе гэта рабіцца што раз часьцей і гусьцей, аж у канцы ўсе будуць адно, як таго хоча сам Хрыстос і што дай Божа як найхутчэй.

**а. Б. П.**

---

# Наш адказ.

У Праваслаўным Календары на 1933 год, выданым Варшаўскай Сынодальнай Друкарняй, ёсьць артыкул, разьлічаны на цёмных людзей, у якім кожны відзіць многа злосьці, фальшу і дэмагогіі. Артыкул носіць загаловак: „Что такое унія „восточнаго обряда“ и почему мы боремся съ ней?“ У гэтым і наступных нумарох дам адказ на галоўныя думкі гэтага някультурнага артыкулу.

1. Аўтор артыкулу, гаворачы аб усходнім абрадзе, заўсёды ставіць гэтыя словы ў чужаслове. Чаму наш абрад — ня ўсходні абрад? Калі наш ня можна назваць усходнім, то і ваш такім ня можна назваць, бо наш абрад нічым ня розьніцца ад вашага.

2. „*Перш за усё*, — піша аўтор артыкулу, — „*усходні абрад ня можна мяшаць з галіцыйскім уніяцкім абрадам. Паміж імі ёсьць вялікая розьніца.*“

Дзякуем за прызнаньне розьніцы. Хаця галіцыйскі і наш абрад належыць па сваёй сутнасьці да аднаго ўсходня-славянскага абраду, аднак ёсьць ня мала паміж імі менш важных розьніц. Многа ў галіцыйскім абрадзе запазычана з лацінскага, але ніколі ня можна згадзіцца з цьвярджаньнем, што Уніяцкі абрад у Галіцыі зусім з часам перайдзе на лацінскі, наадварот ёсьць надзея, што мо' з часам ачысьціцца ад лацінскіх перахопленьняў.

2. „*Насаджаемая-ж Рымам унія „усходняга абраду*“, — піша аўтор артыкулу, — *па сваёй сутнасьці, выразная і цынічная падробка пад Праваслаўе, ніягоднае ашуканства*“.

На гэта адкажу, што аўтор мяшае тут дзьве розныя рэчы, — праваслаўе і ўсходні абрад. Аўтору мо' мала адукованаму, а мо' зумысьля такім прыкінуўшамуся здаецца, што каталіцтва мусіць канешна быць лацінскага абраду, а праваслаўе можа быць толькі ўсходня славянскага абраду. У каталіцкай царкве заўсёды былі і будуць розныя абрады,

налічваюць іх 16. Абрады розныя, а царква адна і вера адна. Таксама і праваслаўе за апошнія часы, як ведаем, згаджалася прыняць годуроўцаў, пакідаючы ім іх, розны ад усходняга, абрад.

Для кожнага хрысьціяніна ясна, што Хрыстос заснаваў толькі адну царкву, як адзін ёсьць Бог, так павінна быць адна вера.

А ці канешна мусіць быць адзін абрад, адна мова? О, не, гэта не канешна. Як з самага пачатку былі ў царкве Хрыстовай розныя абрады, так і будуць, рознасьць абрадаў не працівіцца адзінству веры. Адносна нязлучаных праваслаўных, Сусьветная Хрыстова Царква, жадаючы прывясьці нязлучаных да злучэньня, да адзінства, захоўвае іх абрад, іх звычаі. Гэта захаваньне ці-ж можна назваць падробкай?

А тых, што робяць ахвяру, выракаюцца на ўсё жыцьцё свайго абраду, да каторага прывыклі, шчыра прыймаюць усходня-славянскі абрад і яго звычаі дзеля збаўленьня душ, ці-ж можна назваць ашуканцамі?

Хай сабе раз назаўсёды выб'юць з галавы нязлучаныя праваслаўныя, што ўсходня-славянскі абрад і яго вонкавыя формы — гэта ўласнасьць „праваслаўя“. О. не! быў усходня-славянскі абрад у сусьветнай царкве перад разлучэньнем, быў у часе разлучэньня і будзе пасьля злучэньня.

3. *Дык „усходні абрад“* — піша аўтор артыкулу, — *гэта найчысьцейшае вады Каталіцтва.*

Як ужо казаў, ня трэба мяшаць дзьвёх рэчаў, абраду і рэлігіі. Каталіцтва, гэта рэлігія, якая мае ў сабе членаў розных абрадаў. Каталікі ўсходня-славянскага абраду, нічым ня горшыя за каталікоў абраду лацінскага. Ніхто з усходняга абраду не выракаецца каталіцтва, у тым і ляжыць злучэньне, Унія, што мы злучаныя адной верай з каталікамі.

4. „*Усе векавыя памылкі і вымыслы*, — так піша аўтор артыкулу далей,—*Заходняе Царквы цалком уваходзяць у гэты сьвежа выдуманы абрад.*“

Аб памылках Заходняе Царквы потым, а тутка трэба зазначыць, што наш усходня-славянскі абрад ня можна назваць сьвежа выдуманым. Выдумалі яго такія Вялікія Сьвятыя як Іоан Златавусны, Васілі Вялікі, Грыгоры Папа Рымскі. Наш абрад, як ужо вышэй сказаў, ні у чым ня розьніцца ад вашага, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя. калі ваш цяпер ня выдуманы, а існуе ўжо даўно, так сама і наш абрад ня выдумалі мы, а існуе з першых вякоў хрысьціянства.

Потымка аўтор артыкулу вылічае розьніцы паміж каталіцтвам і нязлучаным праваслаўем. Тутака, на гэтым месцы, немагчыма прывясьці ўсе доказы на падцьверджаньне праўдзівасьці навукі нашае сусьветнае царквы. Зьвярну

толькі ўвагу на тое, што спосаб прадстаўленьня гэтых розьніц непраўдзівы і дэмагогічны.

5. *Бяз ніякага пераўвялічваньня сьмела можна сказаць,* —так далей піша аўтор артыкулу, — *што тыя в некаторых праваслаўных, якія паверылі езуітам і прынялі унію „ўсходняга абраду“, у душы сваёй ніколі не дапушчалі думкі, што яны зрываюць з Праваслаўем.*

На гэта адкажу, што з праўдзівым праваслаўем мы ня зрываем, толькі зрываем з фальшывым.

З якім-жа мы „праваслаўем“ зрываем, а якога ўсёй душою трымаемся, прыймаем. Само слова праваслаўе добрае, яго мы не выракаемся, трэба аднак, для яснасьці, выразна зазначыць, якога праваслаўя мы трымаемся, а якога выракаемся.

1. Выракаемся нязлучанага праваслаўя, а прыймаем праваслаўе злучанае з Рымскім Пасадам.

2. Выракаемся „праваслаўя“ многагаловага, лепш кажучы, безгаловага, а трымаемся праваслаўя, якога Галавой нявідочнай ёсьць Сам Ісус Хрыстос, а галоўным кіраўніком на зямлі ёсьць Наступнік Вярхоўнаапостала Сьвятога Пётры—Сусьветны Архірэй Папы Рымскі.

3. Выракаемся „праваслаўя“ пазьнейшага, што паўстала ў 1054 годзе, аддзяліўшыся ад адзінства з Пятровай Скалой, а трымаемся праваслаўя першых стагодзьдзяў, якое заснаваў сам Ісус Хрыстос.

4. Выракаемся „праваслаўя“ сынодальнага, створанага Царом Пётрай І, паводле пратэстанскага прыкладу, а трымаемся Праваслаўя Вялікіх Сьвятых, як напрыклад, Сьвв. Іоана Златавуснага, Сьв. Васілія Вялікага, Сьв. Мікалая Мірлікійскага Цудатворцы і іншых, што былі ў лучнасьці з Сусьветным Архірэем Папай Рымскім.

5. Выракаемся „праваслаўя“ нацыяльнальнага, якога Галавой ёсьць у Польшчы Мітрапаліт Дзяніс, а прыймаем Праваслаўе Кафоліцкае (Сусьветнае), якога Галоўным Кіраўніком ёсьць Сусьветны Архірэй Піус XI ў Рыме.

6. Выракаемся „праваслаўя“, рознага ад каталіцтва, прыймаем Праваслаўе, каторае абазначае тое самае, што і Каталіцтва, як гэта было ў першых стагодзьдзях, да разлучэньня.

7. Выракаемся „праваслаўнае“ веры, прыймаем праваслаўна-кафоліцкую веру, як знаходзім у царкоўных кнігах.

8. Выракаемся „праваслаўя“ царскага, сілком накінутага нашым прэдкам, прыймаем дабравольна Праваслаўе даўнейшае, веру нашых дзядоў і прадзедаў.

9) Выракаемся, адным словам, „праваслаўя“ фальшывага, а прыймаем і трымаемся Праваслаўя праўдзівага, праўдзівай Царквы, заснаванай Ісусам Хрыстом, каторая

знаходзіцца пад кіраўніцтвам Наступніка Сьв. Пётры—Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага.

Вось, мае дарагія, нязлучаныя, у кароткіх словах выказаў я галоўныя розьніцы паміж праўдзівым і фальшывым праваслаўем.

Прымаючы злучэньне або сьвятую унію, гэтым самым не выракаецеся праўдзівага праваслаўя, а толькі фальшывага.

Ня ўсё-ж тое золата, што блішчыць — ня ўсё тое праваслаўе, што называецца праваслаўем.

Праваслаўе праўдзівае толькі тое, што знаходзіцца ў лучнасьці з Сусьветным Архірэем Папай Рымскім.

(Далей будзе.)

*Злучэнец.*

---

## ПАД ЦЯЖАРАМ ГРАХА.

Калі грэх каменем
На сэрцы мне ляжыць
І пад тым цяжарам
Душа мая баліць:
Мне страх тады дзяньніц Айца.
І мая кволая душа,
Як тая птушка ў клетцы б'ецца.
З вязьніцы цела сільна рвецца,
Шукае сэрца, пачуцьця
І добрых, літасных вачэй.
Цябе о, Маці Прасьвятая,
Тады малю, бо мне лягчэй
На сэрцы неяк стане
І боль заціхне-перастане,
Як да Цябе зьвярнуся я,
Найлепшая Ты з добрых мацярок.

**Янка Невук.**

---

# Хроніка.

**1. Угодкі выбараў і каранацыі Папы Піуса XI.** 12 лютага прыпадаюць угодкі каранацыі Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага. Якраз у гэтым годзе 12 лютага — нядзеля. Увесь сьвет каталіцкі будзе маліцца ў гэты дзень за Айца Хрысьціянства і будуць наладжваны акадэміі пасьля набажэнства ў чэсьць Папы Рымскага Піуса XI.

**2. Папа Рымскі да Польскага Япіскапату.** У адказ на пісьмо, высланае Канфэрэнцыяй Польскага Япіскапату ў лістападзе 1932 году, Сусьветны Архірэй Папа Рымскі праз Кардынала Дзяржаўнага Сэкрэтара на рукі Іх Эм. Кардыналаў Какоўскага і Аўгуста Глёнда прыслаў ліст, у якім выражае сваю ўдзячнасьць за працу япіскапату, а асабліва за наладжаньне „унійнага тыдня“ ад 18—25 студня с. г. Кончыў Папа Рымскі свой ліст апостальскім багаслаўленьнем япіскапаў у іх працы.

**3. Год 1933 — год сьвяты, юбілейны.** Папа Рымскі абвясьціў 1933 год годам юбілейным, бо прайшло 1900 гадоў ад важных здарэньняў для хрысьціянства, ўгодкі ўстанаўленьня Царквы Хрыстовай, сьвятога Прычасьця, а асабліва ўгодкі сьмерці Збаўцы на Крыжы і яго слаўнага Уваскрасеньня. Пачатак юбілейнага году 1 красавіка адчыненьнем т. наз. сьвятой Брамы самым Папаю Рымскім у царкве Сьв. Пётры ў Рыме.

**4. Скліканьне папскае кансысторыі.** На панядзелак 13 сакавіка Папа Рымскі назначыў над'звычайную кансысторыю дзеля назначэньня кардыналаў-легатаў на адчыненьне сьвятых Брамаў у базыліках сьв. Паўлы за Мурамі, Сьв. Іоана Лятэранскага і Н. Д. М. Большае. Назначэньні такія заўсёды адбываюцца праз кансысторыю і дзеля гэтага склікаецца над'звычайная кансысторыя. Магчыма, што ў часе гэтае кансысторыі Папа Рымскі назначыць новых кардыналаў на свабодныя месцы. (КАП).

**5. Альбэртын.** Пры кляштары Таварыства Ісусавага істнуе ўжо 8 гадоў парафія злучаных праваслаўных або уніятаў, якая з кожным годам усё больш і больш разрастаецца. З самага пачатку, ў 1924 годзе, тутака нікога ня было з уніятаў, ніхто нават ня чуў аб неабходнасьці злучэньня хрысьціян. Цяпер, на пачатак 1933 году, тых, што прылучыліся да сусьветнае царквы, ў Альбэртынскай парафіі ёсьць 408 душ. За апошні год прылучылася 50 чалавек, апрача таго ахрышчана 23 дзяцей. Так памалу-памалу і ўвесь Альбэртын сьцяміць патрэбу злучэньня і злучыцца з Сусьветным Архірэем Папай Рымскім. З жыцьця новапрылучаных вельмі радасным зьявішчам ёсьць частая споведзь і вельмі частае прыняцьце Сьв. Прычасьця. Асабліва дзеткі школьныя часта бываюць у лучнасьці з Хрыстом ва сьв. Прычасьці. За мінулы год выдана больш як 3000 сьвятога Прычасьця. Альбэртын — гэта востраў на моры бязбожжа; па вакалічных вёсках, дзе жывуць нязлучаныя праваслаўныя, няма жыцьця рэлігійнага, асабліва хлопцы хваляцца сваім недаверствам, многа ёсьць паміж імі спрыяючых камуністам і нават камуністаў.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# Календар

на м—ц Люты. 1933 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Трыфона | 14 | A | Walentaha |
| 2 | С | **Стрэценьне Гасп.** | 15 | S | Faustyna |
| 3 | Ч | Сымона і Ганны | 16 | Č | Juljany |
| 4 | П | Сідара | 17 | P | Juljana Kapad. |
| 5 | С | Агаты муч. | 18 | S | Symona |
| 6 | Н | **Вуколы, Масьлен.** | 19 | N | **Habina m.** |
| 7 | П | Пархвена | 20 | P | Lawona |
| 8 | А | Хведара | 21 | A | Feliksa |
| 9 | С | Нікіфара мч. | 22 | S | Stal. św. Piotry |
| 10 | Ч | Харлампа | 23 | Č | Piotry Damijana |
| 11 | П | Аўласа муч. | 24 | P | Siarhieja |
| 12 | С | Мелецiя | 25 | S | Macieja |
| 13 | Н | **Нартэніна. Загав.** | 26 | N | **Alaksand. m. Zap.** |
| 14 | П | Аўксеня 1 пз. в. п. | 27 | P | Juljana z. L. |
| 15 | А | Бл. сына Аніс | 28 | A | Ramana |
| | | | | | SAKAWIK |
| 16 | С | Тодара | 1 | S | Albina b. Papielec |
| 17 | Ч | Лявона пап. | 2 | Č | Alony űd. |
| 18 | П | Архіпа | 3 | P | Kunegundy |
| 19 | С | Лявона б. | 4 | S | Kazimiera kar. |
| 20 | Н | **Цімахвея** | 5 | N | **Hadryjana** |
| 21 | П | Пётры | 6 | P | Kalety |
| 22 | А | Палікарпа | 7 | A | Tamaša z Akw. |
| 23 | С | Знах. г. Івана Хр. | 8 | S | Jana Bož. Such. dz. |
| 24 | Ч | Тараса | 9 | Č | Franciški űd. |
| 25 | П | Парфіра | 10 | P | 40 muč. Such. dz. |
| 26 | С | Пракопа | 11 | S | Kanstant. Such. dz. |
| 27 | Н | **Уласа пуст.** | 12 | N | **Hryhora. Suchaja** |
| 28 | П | Тэафіля | 13 | P | Krystyny |

Рэдактар: а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.